## ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

### Исламские страны могут послать в Ирак войска

С инициативой о возможности размещения в Ираке войск из стран арабского или исламского мира на переговорах с госсекретарем США выступили представители Саудовской Аравии.

Об этом стало известно по окончании длительных переговоров между Колином Пауэллом и саудовским министром иностранных дел в Джедде. Один из представителей Саудовской Аравии сообщил, что последние две недели они разрабатывали план размещения в Ираке войск из мусульманских стран. Саудовские официальные лица сообщили также, что обсуждали эту инициативу с представителями ООН и иракскими лидерами, и дискуссии по деталям все еще продолжаются.

Многое зависит от того, какой мандат получат эти войска. Другое условие — их должно пригласить временное правительство Ирака. Однако убедить общественность в целесообразности этого плана может быть очень сложно, поскольку многие люди в странах мусульманского мира резко выступали против военных действий коалиции в Ираке под руководством США.

### ООН призывает финансировать помощь Судану



Генеральный секретарь ООН Кофи Аннан обратился к правительствам нескольких стран Европы, Азии и Персидского залива с просьбой выделить деньги на помощь беженцам в западном Судане.

Пока ООН собрала менее половины из 350 миллионов долларов. Именно такая сумма, по оценкам ООН, нужна для того, чтобы помочь выжить более чем миллиону беженцев, 200 тысяч из которых находятся в соседнем Чаде. Гуманитарные агентства ООН начали предупреждать о грозящей катастрофе в Дарфуре и Чаде уже несколько месяцев назад, но лишь сейчас мир начал обращать на это внимание.

### Кровавый теракт

По меньшей мере 68 человек погибли в результате взрыва автомобиля, начиненного взрывчаткой, возле полицейского участка в городе Бакуба в 65 км к северу от Багдада.

Об этом сообщило Министерство здравоохранения Ирака. Взрыв унес жизни 21 человека в проезжавшем мимо автобусе, и еще 47 человек погибли на улице. Это — самый кровавый теракт в стране с момента передачи власти от возглавляемой США коалиции переходному правительству Ирака 28 июня.

### Россиянин купил в Великобритании завод

Базирующаяся в британском городе Блэкпуле компания по выпуску спортивных автомобилей TVR продана новому владельцу, который заявляет, что фирма будет продолжать работать и развиваться.

Новым владельцем стал Николай Смоленский — 23-летний сын олигарха Александра Смоленского, создавшего один из первых частных российских банков "Столичный". После финансового кризиса в России в 1998 году он уехал за границу. В 2003 году Александр Смоленский продал свой банковский бизнес владельцу холдинга "Интеррос" Владимиру Потанину и по некоторым данным передал управление своими активами сыну. Пока о новом владельце автокомпании больше ничего не известно.

### О новых зверствах в Дарфуре

Согласно только что опубликованному докладу военных наблюдателей Африканского Союза в Дарфуре, несколько чернокожих жителей этой суданской провинции в начале июля были сожжены заживо арабским ополчением "Джанджавид".

Это случилось во время налета ополченцев на местную деревню. Представители Африканского Союза выехали в деревню Сулейя для проверки сообщений о трагедии. Очевидцы подтвердили, что конные боевики "Джанджавид" ворвались в деревню, разграбили рынок, а нескольких человек, подвернувшихся им под руку, сковали цепями и подожгли.



По свидетельствам местного населения, соседняя деревня Эхда была сожжена двумя днями позже, а ее жители разогнаны. Все это случилось, несмотря на перемирие, заключенное между правительством Судана и дарфурскими повстанцами еще в апреле.

### Бегут из коммунистической Кореи

Вторая крупная группа северокорейских беженцев численностью более 220 человек прибыла в среду в сеульский международный аэропорт "Инчхон", сообщает британская вещательная корпорация BBC News. Это лишь часть людей, прилетевших за последние два дня в Южную Корею из неизвестной третьей страны, куда они перебрались из Северной Кореи. Первая партия беженцев из 230 человек была доставлена в Сеул во вторник. В целом, обе прибывшие группы составляют крупнейшую за последние годы волну беженцев из КНДР.

На специальных автобусах беженцы были доставлены к представителям правительственных служб охраны, которые должны были убедиться в том, что среди прибывших нет шпионов. После проверки беженцы из коммунистической Кореи пройдут специальное обучение, которое должно помочь им адаптироваться к жизни в капиталистическом обществе.

### Джон Керри официально утвержден демократами в качестве кандидата на президентский пост

Поздно вечером в среду на проходящем в Бостоне съезде демократической партии сенатор Джон Керри был официально утвержден в качестве кандидата на пост президента США, сообщает Ассошиэйтед Пресс.

## ЛЮБОПЫТНО

### 36 фильмов за 72 часа

Трое любителей кино в Сингапуре заявляют, что установили мировой рекорд по просмотру фильмов. Они смогли посмотреть 36 картин за 72 часа.

Как сообщили местные средства массовой информации, непрерывный показ классических лент и фильмов для семейного просмотра был организован в одном из торговых центров, где для киноманов были поставлены кушетки.

Если Книга рекордов Гиннесса подтвердит достижение сингапурской тройки, они станут новыми мировыми рекордсменами. До сих пор мировой рекорд принадлежал 11 жителям Нью-Йорка, смотревшим кинофильмы в течение 66 с половиной часов.

### Китайский «Туалет» готовится к штурму театральных площадок Европы

В столице Китая с аншлагом идет постановка под незамысловатым названием "Туалет".

Как передает телекомпания НТВ, действие происходит в одном из соответствующих заведений Пекина. Сидя на унитазах, посетители обсуждают политику и городские сплетни, знакомятся и спорят.

Авторы китайской постановки утверждают, что замкнутое пространство располагает к откровениям. В конце месяца спектакль будет показан в Париже и Берлине.

Сюжет для драматургии не нов — еще герои Ремарка из романа "На западном фронте без перемен" любили поболтать, сидя в солдатской уборной. А в театрах Европы с завидной регулярностью идет пьеса чешского писателя Павла Когоута "Нули", основное действие которой также разворачивается в общественном туалете.

### В Германии из поля подсолнухов сделали аттракцион

В немецком городке Шторкове поле подсолнухов превратили в лабиринт. Проложили дорожки, напечатали билеты по 2,5 евро за штуку и пригласили туристов.

Как сообщает телекомпания НТВ, желающих побродить среди ярких цветов нашлось немало. Хотя искать выход порой приходится целый день. К нему ведет только один путь — длиной более километра.

На будущий год организаторы обещают создать новый лабиринт. На этот раз на плантации конопли.

## ШТО ТАМ, У ГЕРМАНІІ

# Наступіць на горла ўласнай песні

*(Працяг. Пачатак у № 139.)*

### Канфлікт на «Мерседэсе»





*Так нямецкія СМІ адлюстроўваюць сілу бюракратыі.*

Першыя бліскавіцы з хмары, што насоўвалася, успыхнулі вясной, на гадавым сходзе акцыянераў кампаніі Daimler-Chrysler. Тады моцна дасталося менеджэрам і кіраўніку канцэрна Юргену Шрэмпу. За тое, што акцыі ўпалі за пяць гадоў у цане на 47 працэнтаў. Усялякія спробы кіраўніцтва схавацца за аб'ектыўнымі прычынамі натыкаліся на моцны довад акцыянераў: "А вось акцыі канцэрна BMW за гэты ж час выраслі амаль на столькі ж".

Было вырашана выправіць становішча. Спецыялісты пачалі думаць: як? І прыдумалі — асноўная фабрыка канцэрна, што ў Зіндэльфінгене пад Штутгартам, якая выпускае "Мерседэсы" С-класа, павінна скараціць свае расходы на паўмільярда еўра, што дазволіць удыхнуць новыя сілы ў вытворчасць і павысіць канкурэнтаздольнасць прадукцыі. А каб скараціць расходы, неабходна падрэзаць прывілеі.

Якія ж яны? Тут яшчэ трыццаць гадоў таму ўведзена так званая спецыяльная паўза — пяць мінут кожную гадзіну на каву. Акрамя таго, рабочым на заводах "Мерседэса" налічваецца даплата ў памеры 15 працэнтаў аклада за "познюю змену", якая, дарэчы, лічыцца ўжо з 12 гадзін дня. У цэлым яны працуюць у год на два рабочыя тыдні менш, чым іх калегі на іншых прадпрыемствах.

Менеджэры кампаніі палічылі, што такімі ільготамі можна паахвяраваць дзеля будучыні кампаніі. Да таго ж выклалі свае прапановы яны ў даволі ультыматыўнай форме. Маўляў, калі прафсаюзы і калектыў не пагодзяцца, кіраўніцтву нічога не застанецца, як перанесці вытворчасць машын у іншае месца, туды, дзе больш танная рабочая сіла, магчыма нават у Афрыку.

Ці то сам замах на прывілеі, ці то яго ультыматыўная форма, а магчыма, і тое, і другое выклікалі небывалую незадаволенасць прафсаюзаў і працаўнікоў. Савет працоўнага калектыву тут жа выставіў свой ультыматум: згодны на эканомію толькі 180 мільёнаў еўра і ні цэнта болей. А каб кіраўніцтва не сумнявалася ў іх рашучасці, каля 12 тысяч працаўнікоў тут жа адмовіліся ад добраахвотнай звышурочнай работы.

Планы канцэрна выклікалі бурную рэакцыю прафсаюзных лідэраў і палітыкаў. Старшыня савета працоўнага калектыву Вернер Нойфер ўпікнуў кіраўніцтва: "Уражанне, што яно жыве на іншай планеце". Намеснік старшыні фракцыі сацыял-дэмакратаў у парламенце Міхаэль Мюлер убачыў у гэтым факце "падзенне маралі ў бізнесе", калі перастаюць думаць аб сацыяльнай адказнасці перад працоўнымі.

15 ліпеня сутычка працоўных з работадаўцамі вылілася ў магутную забастоўку, у якой бралі ўдзел 20 тысяч працаўнікоў завода ў Зіндэльфінгене. Яны на дзве гадзіны спынілі канвеер і правялі мітынг ля фабрычных варот. Такога масавага выступлення тут не было. За час забастоўкі з канвеера не сышло 800 новых "Мерседэсаў". Упершыню пасля мітынгу рабочыя прайшлі маршам па вуліцах горада, каб падкрэсліць важнасць свайго выступлення. Цікава, што яны не прасілі дазволу на гэта ў гарадскіх улад, і ніхто не толькі не замахваўся на іх дубінкамі, але і не папракаў. Ды хай бы хто толькі паспрабаваў сарваць акцыю!

Баставалі ў гэты дзень не толькі тут, але і на іншых заводах фірмы па ўсёй Германіі — у Дзюсельдорфе, Брэмене, Франкфурце-на-Майне... Авацыяй сустрэлі паведамленне аб тым, што ў знак салідарнасці часова прыпыніў работу і завод "Мерседэс" у Бразіліі. Па даных прафсаюза металістаў, у акцыі ўзялі ўдзел больш як 60 тысяч чалавек. Яны трымалі плакаты: "Гэта вайна!", "Хто пасее вецер — пажне буру". Нягледзячы на гэта, забастоўка мела толькі папераджальны характар і імкненне прадэманстраваць рабочую салідарнасць і рашучасць.

Цікава, што калі ля фабрычных варот праходзіў мітынг, дырэкцыя запрасіла да сябе на альтэрнатыўнае мерапрыемства менеджэраў і майстроў, кіраўнікоў падраздзяленняў — каля тысячы чалавек. З'явіліся не ўсе, многія пашыбавалі на мітынг, дзе іх цёпла сустрэлі.

Прафсаюзы і калектыў выказалі свае намеры. Так, яны згодны, што эканоміць трэба, што зацягнуць папругу прыйдзецца тужэй, і таму пагаджаюцца на эканомію каля 200 мільёнаў еўра. Скарачэнне ўсіх расходаў за кошт рабочых лічаць неабгрунтаваным, кампанія ж мае прыбытак.

Іх падтрымалі вядомыя дзеячы. Старшыня бундэстага Вольфганг Цірзе падкрэсліў, што кіраўніцтва канцэрна не мае права ў такім тоне размаўляць з рабочымі і ствараць "атмасферу страху". *"Мярзотна, калі перад рабочымі ставяць такі ультыматум*, — зазначыў ён, — *які самім сабе чамусьці не ставяць"*. Старшыня сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі, які нядаўна змяніў на гэтай пасадзе канцлера Шродэра, спадар Франц Мюнтэферынг у інтэрв'ю газеце "Берлінер цайтунг" заявіў, што некаторыя прадпрымальнікі выкарыстоўваюць выгадны момант для таго, каб выціснуць як мага болей прыбытку за кошт рабочых. У той жа час самі топ-менеджэры атрымоўваюць шматмільённыя заробкі, што ніяк не стасуецца з прыстойнасцю.

У кіраўніцтва канцэрна свой довад. І яно актыўна даводзіла яго да грамадскасці. "Мерседэс Car Croup" уваходзіць у склад германа-амерыканскага канцэрна Daimler-Chrysler. Так, летась канцэрн "Мерседэс Car Croup" атрымаў прыбытку 5,7 мільярда еўра. Аднак у першым паўгоддзі адзначана падзенне прадажы машын. Больш таго, на светлы гарызонт находзяць цёмныя хмары. Адна з іх — амерыканскае падраздзяленне Chrysler. Яго гадавыя страты склалі больш за паўмільярда еўра. Таму калі цяпер не прадпрымаць рашучых захадаў, дык можна згубіць будучыню. Словам, патрэбны вялікія сродкі на мадэрнізацыю і новыя тэхналогіі. Кіраўніцтва разумее рабочых і хоча, каб яны зразумелі яго: меры, што прапануюцца, — вымушаныя. Маўляў, хочаш ці не, але, гаворачы вобразна, трэба наступіць на горла ўласнай песні.

І гэты довад знайшоў шмат прыхільнікаў, у тым ліку і сярод палітычнай эліты. Старшыня Хрысціянска-дэмакратычнага саюза Ангела Меркель зазначыла, што гэта абсалютна нармальна, калі кампанія збіраецца пераносіць свой завод туды, дзе меншыя расходы і траты. Старшыня ХСС Эдмунд Штойбер падкрэсліў, што кава-паўзы кожную гадзіну і даплаты за працу пасля 12 гадзін дня ўжо не адпавядаюць новым рэаліям, і прафсаюзам варта праявіць гнуткасць.

Гэтыя дзве пазіцыі шырока асвятляў друк. Газета "Вестфэлітэр анцайгер" пісала: "Мерседэс" здаровы як бык. Яго галоўнае прадпрыемства ў Зіндэльфінгене прыбытковае. Але тут прыставілі нож да горла рабочых, каб мець яшчэ большы прыбытак. Нельга адмахнуцца ад думкі, што мы маем справу з шантажом. Рабочым напомнілі, што ёсць іншыя месцы, дзе зборка аўтамабіляў абыдзецца больш танна. Да падобных пагроз прыбягаюць усё больш адкрыта... Для многіх наступае прабуджэнне да суровай рэальнасці. Але яшчэ пакуль не позна". Другая газета "Франкфуртэр альгемайне цайтунг" дае такі каментарый апісаных падзей. "Гэта не мае нічога агульнага ні з класавай барацьбой, ні са смагай менеджэраў да нажывы. Больш гнуткі рабочы графік, а часам і больш інтэнсіўная праца — хутчэй вымушаны адказ на глабальныя патрабаванні часу. На гэта можна скардзіцца, але змяніць яго нельга. У канечным ліку размова ідзе аб спробах утрымаць і ўзровень дабрабыту ў Германіі і забяспечыць поспех нямецкіх прадпрыемстваў і тавараў на сусветных рынках".

Як бачым, пазіцыі газет розныя. Але яны выказаны і пачуты. Усе гавораць, што лічаць важным, і ўсіх слухаюць. Вось што варта падкрэсліць. У выніку канфлікт "Мерседэса" з дапамогай СМІ набыў агульнанацыянальнае значэнне, стаў першай і важнай спробай грамадскіх сіл і заяўкай працоўных на свае правы і прэтэнзіі. Такім чынам, у "Мерседэсе" вырашаліся не толькі яго праблемы, але і на прыкладзе яго шукалі варыянты вырашэння такіх праблем на іншых прадпрыемствах, у прамысловасці краіны ў цэлым.

Вось у чым сутнасць вопыту Германіі. А што было б, калі б замоўчвалі гэты канфлікт, калі б "Мерседэс" сам вырашаў свае праблемы? Было б тое, што ў нас, што ў Расіі... То на адным прадпрыемстве ўспыхвалі б забастоўкі, то на другім, трэцім... Кожны вучыўся б на ўласных памылках. Народная мудрасць даўно кажа: толькі дурні вучацца на ўласных памылках, разумныя вучацца на памылках іншых. Канфлікт на "Мерседэсе" паказаў, што ў Германіі на памылках аднаго калектыву імкнуцца вучыцца ўсе астатнія. Пераканаготны: у такой ультыматыўнай форме ўжо не будуць размаўляць з рабочымі ні на адным прадпрыемстве.

У выніку супрацьстаяння і гарачых дыскусій быў знойдзены кампрамісны варыянт. Частка расходаў будзе скарочана за кошт змяншэння прывілей, астатняя эканомія будзе дасягнута за кошт мер па рацыяналізацыі працы.

Канфлікт даў штуршок для палітыкаў і вучоных. У сувязі з чым газета "Берлін цайтунг" зазначае: "Дасягненне кампрамісу сведчыць, што і прафсаюз, і работадаўцы добра ведаюць сваю справу. У выніку, з аднаго боку, ёсць дамоўленасць аб павышэнні заробкаў, з другога — магчымасць работадаўцаў павялічваць працягласць рабочага тыдня. Урадаўцы і палітычныя партыі маглі б павучыцца ў партнёраў па тарыфных перамовах. Германіі вельмі патрэбны такія прагматычныя рашэнні".

Не застаўся ў баку ад канфлікту і прэзідэнт краіны Хорст Келер. Ён заклікаў дзеячаў і грамадства да адкрытай дыскусіі па пытаннях павелічэння працягласці рабочага тыдня і скарачэння адпачынкаў. Да гэтага, на яго думку, прымушаюць новыя эканамічныя рамкі, канкурэнцыя на сусветных рынках і нацыянальныя інтарэсы. Заўважце, ён не навязвае сваёй думкі, сваіх планаў і задум, ён не лічыць сябе самым разумным, нейкім праваадыром, які працягнутай рукой указвае шлях, па якім павінна рухацца грамадства. Ён запрашае іх выказацца, каб пры выпрацоўцы рашэння абапірацца на калектыўны розум.

Хачу нагадаць яшчэ словы лідэра нямецкіх сацыял-дэмакратаў Франца Мюнтэферынга: "У той час самі топ-менеджэры атрымоўваюць шматмільённыя заробкі, што ніяк не стасуецца з прыстойнасцю". Гэты тэзіс таксама часта і даволі моцна гучаў у час канфлікту на "Мерседэсе", прыцягваў да сябе ўвагу грамадскасці. Вышэй аб ім не ішла гаворка толькі з-за аднаго — гэта тэма асобнага артыкула. Наступнага.

*(Заканчэнне будзе.)*

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

# Еўрапейскі Саюз:

## учора, сёння, заўтра

## *Што трэба ведаць пра ЕС*

*(Працяг. Пачатак у №139.)*

### 10. Як сталася, што першы крок не стаў апошнім?

Стварэнне ЕАВС было толькі пачаткам інтэграцыйных працэссаў у Еўропе. Краіны "шасцёркі", хаця і кожная па-рознаму, былі скіраваныя на пашырэнне і паглыбленне гэтага працэсу. Іх прадстаўнікі, якія сабраліся ў 1955 г. *у Месіне*, дамовіліся зрабіць новыя крокі наперад. Было вырашана стварыць **Еўрапейскую эканамічную супольнасць (ЕЭС) і Еўрапейскую супольнасць па атамнай энергіі (Еўратам).** Вялікабрытанія, як і раней, ставілася да гэтых працэсаў насцярожана. Яна не лічыла сябе еўрапейскай (кантынентальнай) дзяржавай і не гатова была да ўдзелу у маштабных інтэграцыйных працэсах. Таму ў *Месіне* яна была прадстаўлена першапачаткова ў якасці назіральніка, а потым і наогул пакінула нараду. Англічане пры некаторых умовах маглі пагадзіцца толькі са стварэннем зоны свабоднага гандлю і не больш таго. Ні аб якім абмежаванні суверэнітэтаў на карысць агульнаеўрапейскіх органаў яны і думаць ў гэты час не хацелі.

Тым часам краіны "шасцёркі" *25 сакавіка 1957 г.* падпісалі ў Рыме дамоўленасці аб стварэнні як ЕЭС, так і Еўратама. Пагадненне аб стварэнні Еўратама прадугледжвала супрацоўніцтва краін у галіне мірнага выкарыстоўвання ядзернай энергіі. Мелася на ўвазе правядзенне сумесных ядзерных даследаванняў, стварэнне ядзерных аб'ектаў, распрацоўка кодэкса бяспекі пры ядзерных даследаваннях і другіх работах у гэтай сферы, стварэнне органа, які быў бы надзелены пераважнымі правамі на ядзерную сыравіну. Такім чынам, Еўратам, як і ЕАВС, стаў арганізацыяй галіновай інтэграцыі.

### 11. Што ўяўляла сабой еўрапейская эканамічная супольнасць? Як утвараўся Агульны рынак?

Еўрапейская эканамічная супольнасць, у адрозненне ад Еўратама і ЕАВС, з самага пачатку адыгрывала галоўную ролю ў еўрапейскіх інтэграцыйных працэсах. Дамова аб стварэнні ЕЭС прадугледжвала фарміраванне агульнага рынка краін-удзельніц. (Гэта стала прычынай для таго, што ЕЭС звычайна называлі проста **Агульны рынак**.) Мелася на ўвазе адмена імі мытных пошлін і колькасных абмежаванняў для ўвозу і вывазу тавараў, устанаўленне агульнага тарыфу пры гандлі з "трэцімі краінамі" і агульнай гандлёвай палітыкі ў галіне сельскай гаспадаркі і транспарту, ліквідацыя перашкодаў для свабоднага перамяшчэння людзей, капіталаў і паслуг, збліжэнне заканадаўства, стварэнне Еўрапейскага інвестыцыйнага банка і г.д. Канчатковай мэтай, прызначанай да ажыццяўлення да 1992 года, аб'яўлялася свабоднае абарачэнне тавараў, паслуг, капіталаў, працоўнай сілы паміж усімі краінамі Агульнага рынку.

Усе інтэграцыйныя аб'яднанні мелі свае кіруючыя органы, якія, аднак, не мелі паўнамоцтваў значна абмяжоўваць суверэнітэт краін-удзельніц. Апошнія перадалі супольнасцям толькі пэўную частку дзяржаўных паўнамоцтваў у эканамічнай сферы і нават не планавалі ствараць нейкі "еўрапейскі суверэнітэт", захоўваючы свой, нацыянальны.

Дзейнасцю Агульнага рынку кіравалі пастаянныя міжнародныя органы: Савет, Асамблея і Суд, якія складаліся з прадстаўнікоў шасці дзяржаў. На правах асацыяваных членаў да ЕЭС далучыліся 22 афрыканскія краіны, якія на той момант з'яўляліся каланіяльнымі ўладаннямі краін — членаў ЕЭС.

З сярэдзіны 60-х гадоў адбывалася паступовае аб'яднанне ці зліццё кіруючых інстытутаў трох супольнасцяў, аднак кожнае з іх захоўвала сваю правасуб'ектнасць і заставалася юрыдычнай асобай.

У дагаворы аб стварэнні ЕЭС прадугледжвалася, што Агульны рынак павінен фарміравацца паступова, на працягу пераходнага перыяду ў 12 гадоў. Аднак ужо з 1 ліпеня 1968 г., гэта значыць на паўтара года раней устаноўленага тэрміну, краіны — члены ЕЭС ажыццявілі паміж сабой мытны саюз, былі адменены мытныя тарыфы, устаноўлены агульны знешні тарыф. Краіны-ўдзельніцы дамовіліся таксама аб асноўных прынцыпах правядзення агульнай сельскагаспадарчай палітыкі. На наступным этапе планавалася пашырыць эканамічны саюз, ажыццявіць свабоднае перамяшчэнне рабочай сілы і капіталу, узгадненне сацыяльнай палітыкі, стварэнне валютнага саюза з адзіным цэнтральным банкам.

### 12. Як далей развівалася еўрапейская інтэграцыя?

Ва ўмовах актыўнага развіцця інтэграцыйных працэсаў на еўрапейскім кантыненце Вялікабрытанія імкнулася ўмацаваць свае пазіцыі. Яна не магла пайсці так далёка ў справе інтэграцыі, як краіны "шасцёркі", але і не хацела заставацца адной у Еўропе перад аб'яднаным фронтам еўрапейскіх дзяржаў. У 1960 г. па яе ініцыятыве ствараецца яшчэ адно інтэграцыйнае аб'яднанне пад назвай **Еурапейская асацыяцыя свабоднага гандлю (ЕАСГ).** Пагадненне аб стварэнні ЕАСГ было падпісана ў Стакгольме 4 студзеня 1960 г. Акрамя Вялікабрытаніі, у яго склад увайшлі Аўстрыя, Данія, Нарвегія, Партугалія, Швейцарыя, Швецыя, з 1961 г. — Фінляндыя. ЕАСГ была больш сціплай па сваіх мэтах за папярэднія арганізацыі. Стакгольмскі дагавор прадугледжваў толькі стварэнне ўмоў для свабоднага гандлю прамысловымі таварамі паміж краінамі-ўдзельніцамі шляхам паступовага скарачэння мытных пошлін і колькасных абмежаванняў. Ніяк не вырашалася праблема гандлю сельскагаспадарчымі прадуктамі, не рэгуляваліся фінансава-эканамічныя аспекты дзейнасці краін, не прадугледжвалася стварэнне адзінай мытнай тэрыторыі з агульным знешнім тарыфам, і тым больш не планавалася ўстанаўленне палітычнага саюза ў якой-небудзь форме.

Хутка, аднак, стала відавочным, што аморфная, створаная з далёка не першых еўрапейскіх дзяржаў ЕАСГ не можа супрацьстаяць краінам Агульнага рынку, у цэнтры якога знаходзіўся франка-германскі саюз. Разуменне гэтага, як і ўсведамленне магчымасці аказацца ізаляванай ад аб'яднанай Еўропы, памяняла пазіцыю Вялікабрытаніі. У пачатку 60-х гадоў прэм'ер-міністр Г.Макмілан пачынае актыўную кампанію па далучэнні краіны да ЕЭС, нягледзячы на супрацьдзеянне Лейбарысцкай партыі. Аднак Вялікабрытанія сутыкнулася з рашуча адмоўнай пазіцыяй Францыі. Прэзідэнт дэ Голь лічыў яе праваднiком інтарэсаў ЗША і меркаваў, што ўступленне Англіі ў Агульны рынак аслабіць магчымасці аб'яднанай Еўропы ў канкурэнтнай барацьбе з амерыканцамі. З другога боку, французскі прэзідэнт сваёй жорсткай пазіцыяй імкнуўся захаваць у ЕЭС лідзіруючыя пазіцыі сваёй краіны ў саюзе з ФРГ, якія маглі быць пастаўлены пад пагрозу пасля ўступлення Вялікабрытаніі. Такім чынам, першая спроба англійскага ўрада далучыць краіну да працэсаў еўрапейскай інтэграцыі не мела поспеху. Такі ж лёс чакаў і ініцыятыву ўжо лейбарысцкага ўрада, калі ён у маі 1967 г. накіраваў афіцыйную заяву аб далучэнні да ЕЭС. Францыя зноў цвёрда выказалася супраць. Толькі ў 1972 г. прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Э.Хіт дабіваецца згоды Францыі, дзе прэзідэнтам быў ужо Ж.Пампіду, і шлях да ўступлення Вялікабрытаніі ў ЕЭС становіцца адкрытым. Англія стала паўнапраўным членам ЕЭС з *1 студзеня 1973 г.*

Разам з Вялікабрытаніяй да ЕЭС дылучыліся таксама Данія і Ірландыя. Працэс яго пашырэння працягваўся і далей. У 1981 г. далучылася Грэцыя, у 1986 г. — Іспанія і Партугалія, у 1995 г. (ужо пасля стварэння ЕС) — Аўстрыя, Швецыя і Фінляндыя. Імкненне ўрада Нарвегіі ўключыць сваю краіну ў ЕЭС было двойчы перакрэслена вынікамі ўсеагульнага рэферэндуму.

### 13. Калі быў уведзены тэрмін «Еўрапейская супольнасць»?

Тры еўрапейскія аб'яднанні (ЕАВС, Еўратам, ЕЭС) усё больш успрымаліся грамадствам як адзіная супольнасць. У сувязі з гэтым *16 лютага 1978 г.* Еўрапейскі парламент прыняў рашэнне аб увядзенні тэрміна **"Еўрапейская супольнасць"** у дачыненні да ўдзельнікаў інтэграцыйных працэсаў у межах гэтых трох аб'яднанняў. Пры гэтым усе тры аб'яднанні заставаліся існаваць і захоўвалі статус юрыдычнай асобы.

Працэсы інтэграцыі развіваліся паспяхова, абмяжоўваючыся да 90-х гадоў у асноўным эканамічнымі праблемамі. Былі ліквідаваны мытныя пошліны і колькасныя абмежаванні ў гандлі. У 1968 г. уведзены агульны мытны тарыф у адносінах да трэціх краін, праводзілася уніфікацыя фінансавага заканадаўства, распрацоўвалася адзіная аграрная палітыка. У 70-я гады была ўведзена агульная еўрапейская разліковая адзінка — **экю. Шэнгенскія пагадненні 1985 г.** прадугледжвалі свабоду перамяшчэння грамадзян Еўрапейскай супольнасці *(Бельгія, Італія, Люксембург, Нідэрланды, Францыя, ФРГ, Данія, Грэцыя, Вялікабрытанія, Ірландыя, Іспанія, Партугалія, Аўстрыя, Швецыя і Фінляндыя)*, а таксама агульныя візавыя правілы ў адносінах да грамадзян трэціх краін.

Гэтыя пагадненні пачалі рэалізоўвацца на пачатку 90-х гадоў, але да іх не далучыліся Вялікабрытанія і Ірландыя.

### 14. Як быў створаны Еўрапейскі Саюз?

Поспехі эканамічнай інтэграцыі, стварэнне Агульнага рынку, паставілі на парадак дня пытанне аб пераходзе да новага ўзроўню інтэграцыі. Мелася на ўвазе стварэнне эканамічнага і валютнага саюза, што аб'ектыўна павінна было прывесці да больш цесных узаемаадносін у палітычнай сферы, у прыватнасці, да большай узгодненасці дзеянняў еўрапейскіх краін на міжнароднай арэне. Падрыхтоўка новага інтэграцыйнага пагаднення краін ЕЭС заняла прыблізна тры гады.

Пачатак паклала сесія Савета Еўропы ў Гановеры (27—28 чэрвеня 1988 года), якая даручыла прэзідэнту Генеральнай камісіі ЕЭС **Жаку Дэлору** вывучыць і падрыхтаваць прапановы адносна канкрэтных этапаў па ўтварэнні эканамічнага і валютнага саюза. Праект Дагавора аб Еўрапейскім Саюзе быў надрукаваны 17 красавіка 1989 года. Пасля гэтага тэкст пагаднення тройчы абмяркоўваўся на сесіях Еўрапейскага Савета.

З 1 ліпеня 1990 года пачаўся новы этап стварэння валютна-фінансавага і эканамічнага саюза краін ЕЭС. У васьмі найбольш развітых краінах — Вялікабрытаніі, Даніі, Францыі, Італіі, Германіі, Бельгіі, Галандыі, Люксембургу — быў уведзены рэжым свабоднага пераводу капіталаў і адкрыцця любых валютных рахункаў грамадзянамі гэтых дзяржаў. Гэта сведчыла аб новым, больш высокім этапе інтэграцыі. Скончылася цэлая эпоха ў развіцці сусветнай эканомікі, калі міністэрствы фінансаў і цэнтральныя банкі кожнай краіны дбайна баранілі ўнутраны рынак і ўсяляк заміналі вывазу капіталу.

Урэшце трохгадовая падрыхтоўка была завершана падпісаннем *7 лютага 1992 г.* **Маастрыхцкага дагавора,** які ўступіў у сілу 1 лістапада 1993 г.

Маастрыхцкі дагавор з'яўляецца адным з найбольш важных прававых актаў у гісторыі XX стагоддзя, лагічным працягам больш як саракагадовай гісторыі еўрапейскай інтэграцыі. Пасля поўнай яго рэалізацыі Еўрапейскі Саюз павінен ператварыцца ў эканамічную "звышдзяржаву", а палітычна — у значнай ступені здолее рэалізаваць ідэю Злучаных Штатаў Еўропы.

Асноўныя мэты Дагавора:

— замацаваць вынікі, якія былі дасягнутыя на папярэдніх этапах інтэграцыі;

— павысіць эфектыўнасць механізмаў і органаў Супольнасці;

— садзейнічаць збалансаванаму сацыяльнаму і эканамічнаму развіццю ў краінах Супольнасці;

— павысіць ролю супольнасці на міжнароднай арэне;

— узмацніць абарону правоў і інтарэсаў грамадзян.

Маастрыхцкі дагавор намеціў канкрэтны план стварэння валютнага і эканамічнага саюза, які патрэбна было рэалізаваць да 1999 г. Прадугледжвалася стварыць у працэсе рэалізацыі адзіную валюту і адзіны цэнтральны банк. Для Вялікабрытаніі, якая ў інтэграцыйных працэсах рухалася больш запаволена, было зроблена выключэнне. Дагавор прадугледжваў і развіццё супрацоўніцтва ў галіне знешняй палітыкі і бяспекі, а таксама па пытаннях правасуддзя і ўнутраных спраў. На аснове Маастрыхцкага дагавора быў створан **Еўрапейскі Саюз (ЕС),** які ўвабраў у сябе Еўрапейскую супольнасць і яе кіруючыя органы.

**Такім чынам, 1 лістапада 1993 года з'яўляецца фактычным днём утварэння Еўрапейскага Саюза.**

### 15. Якія краіны і калі ўвайшлі ў Еўрапейскі Саюз?

Да чарговага пашырэння 1 мая 2004 года ў ЕС уваходзілі 15 краін. Гэтыя краіны ўпершыню аб'ядналіся ці далучыліся да агульнаеўрапейскіх структур, якія сталі асновай ЕС, у наступныя тэрміны:

| | |
|---|---|
| 25.03.57 г. | Францыя, Германія, Італія, Бельгія, Галандыя, Люксембург; |
| 01.01.73 г. | Данія, Ірландыя, Вялікабрытанія; |
| 01.01.81 г. | Грэцыя; |
| 01.01.86 г. | Іспанія, Партугалія; |
| 01.01.95 г. | Аўстрыя, Фінляндыя, Швецыя |

*(Працяг будзе.)*

